Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 23. Вільня, 20 жніўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207

Падпісная цана: На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй.





## Аб Віленскай Беларускай Гімназіі.

Апошнімі днямі віленскія польскія газэты выдрукавалі кароценькія запемкі аб тым, што віводзін з настаўнікаў Віленскае Беларускае Гімназіі ня будзець зацьверджаны дырэктарам гэтае гімназіі. Трэба думаць, што гэтая вестка паходзіць з крыніцаў, ад якіх залежыць лёс школаў, з Куратарыюму і, значыцца, беларускае грамадзянства будзець пастаўлена перад фактам конфлікту паміж школьнымі ўладамі з аднаго боку і Т-вам Беларускае Школы з другога боку, коштам якога Гімназія ўвесь час утрымлівалася і якому падпарадкаўвалася.

А тымчасам падыходзіць верасень месяц. Пачнуць зьяжджацца вучні, і што-ж яны знойдуць у Вільні? — Зачыненыя дзьверы?

Да гэтага ня можа дапусьціць беларускае грамадзянства, якое якнайхутчэй мусіць зацікавіцца лёсам Віленскае Беларускае Гімназіі — лепшае сярэдняе беларускае школы.

У свой час, на старонках нашае газэты мы выказалі досыць выразна свой пагляд на тое, як мусіць быць вырашана беларуская школьная справа ў Польшчы і якою мусіць быць панашаму палітыка польскіх школьных уладаў у гэтым пытаньні. Мы сказалі: Школа гэта ня гандаль і концэсіі тэй ці іншай арганізацыі з выразным палітычным ухілам, рэч нездаровая, рэч шкодная. Справу школы мусіць узяць у свае рукі дзяржава. Беларуская школа як пачатковая, так і сярэдняя, мусіць быць дзяржаўнаю з поўнымі правамі, роўнымі з польскімі дзяржаўнымі школамі і гімназіямі... І калі-б гэтакаю была палітыка школьных уладаў, мы ня мелі-б таго прыкрага стану, які маем сягоньня, калі з-за школьнага пытаньня беларускае грамадзянства знаходзіцца ў вострай опозыцыі да польскіх урадаў.

Тлумачэньні некаторых чыноўнікаў, што беларускую сярэднюю школу трудна арганізаваць, бо няма кваліфікованых настаўнікаў, падручнікаў і г. д. — не вытрымліваюць крытыкі.

Бо, напрыклад, у Дзьвінску ўжо пяць гадоў існуець вельмі добра пастаўленая беларуская дзяржаўная гімназія, абітурыенты якое вучацца ў... Віленскім Унівэрсытэце. Дык ці не магла-б істнаваць яшчэ лепшая, як у Дзьвінску, гімназія ў Вільні? Знайшлася-б і інтэлігэнцыя, і кваліфікованыя настаўнікі і падручнікі, абы была толькі добрая воля вырашыць гэтую справу. Нормальная, здаровая пастаноўка беларускае пачатковае і сярэдняе асьветы ў Польшчы мела-б вялізарнае значэньне ня толькі культурнае, але і палітычнае, бо разьвеяла-б легенду, так моцна закаранеўшую ў мазгох часткі грамадзянства, што ў Польшчы ня можа разьвівацца і расьці беларуская школа. Але,

апрача гэтага, ўпарадкаваньне сярэдняе беларускае асьветы мела-б яшчэ і другое значэньне: беларускай моладзі ня трэба было-б шукаць шчасьця і навукі за граніцай, і такім чынам пападаць пад уплыў варожых сілаў.

У чыіх інтарэсах ляжыць цягнуць і надалей тую шкодную школьную палітыку „прыватнасьці“ беларускіх школаў, школьную палітыку, якая вялася да гэтага часу і якая аддавала беларускую школьную справу ў рукі... чужацкіх агентур?

Сьмеем тутака сказаць праўду. Ні польскае, ні беларускае грамадзянства не зацікаўлена ў тым, каб беларуская школа ў Польшчы была на ўтрыманьні маскоўскіх агентаў, якім і ходзіць перад усім сварыць беларусаў з палякамі і выхоўваць у гэтым кірунку маладое пакаленьне.

Калі Куратарыюм нарэшце апамятаўся і хоча нейкае рэарганізацыі і аздараўленьня беларускае Гімназіі ў Вільні, то, думаецца нам, што гэтая рэарганізацыя ня будзець палягаць на тым, што гімназію зачыняць. Беларускае грамадзянства магло-б яшчэ прымірыцца з тым, што концэсія ня будзець дадзена асобам, якія знаходзяцца пад уплывам б. Грамады, але яно ніколі ня прымірыцца з тым, што Вільня ня будзець мець сярэдняе беларускае школы.

І вось мы кажам: Найлепшы выхад з палажэньня гэта заснаваньне Беларускае дзяржаўнае гімназіі ў Вільні, і калі на гэта Куратарыюм згадзіцца ня можа, высоўваючы нейкія акадэмічныя закіды аб адсутнасьці падручнікаў, настаўнікаў і г. д., часова, як на компроміс, беларускае грамадзянства магло-б згадзіцца на тое, каб Віленская Беларуская Гімназія адтрымала ўсе правы і знаходзілася пад кіраўніцтвам асобаў, якія ня маюць ніякае сувязі з тымі, якія існуюць, палітычнымі «крамкамі», альбо пад апекай культурных установаў, якія ня маюць нічога супольнага з рознымі өрыентацыямі.

Час ідзець. Школьны год пачынаецца заўтра. Пабачым, ці здолееце урэшце разьвязаца той вузел, які завязаны навакол беларускае школьнае справы рознымі няпрыхільнымі беларусчыне сіламі?

---

# ШТО РАБІЦЬ У ШКОЛЬНАЙ СПРАВЕ.

1. Міністэрства Асьветы выдала загад, што ў сёлетнім школьным годзе ўводзіцца абавязковае вучэньне ў школах усіх дзяцей школьнага веку. Паводле гэнага загаду, бацькі яшчэ ў гэтым месяцы (жніўні) павінны запісаць дзяцей у ўрадовую школу або наказаць свайму школьнаму інспэктару, што будуць пасылаць іх у прыватную школу, або вучыць дома. Гэтакі ёсьць загад Міністэрства Асьветы.

Дык бацькі, каторыя падавалі дэклярацыі на ўрадовую беларускую школу, павінны цяпер падаць свайму школьнаму інспэктару заяву (пабеларуску) гэтакага зьместу:

---

# Аб патрэбе грамадзкага ўзгадаваньня.

III.

У абставінах сялянскага жыцьця навука пачынаецца і канчаецца ў маладых гадох, з, паводле абавязуючага ў заходняй Беларусі права аб агульным навучаньні, ад 7 да 14 гадоў.

Пачынаючы ад 7-га году, ўсе дзеці павінны вучыцца ў пачатковых школах, якія разьлічаны на 7 гадоў навучаньня.

Дасьледчая навука—статыстыка сьцьвярдзіла вялікі процант няграматных у нашых вёсках і мястэчках. Цяжка-ж, гэта добра ведаюць сяляне, жыць няграматнаму ў нашыя часы.

Значная большасьць г. зв. граматных сялян умее толькі расьпісацца, хоць па 3 гады некалі хадзілі да школаў, дзе пільна прыкладаліся да навукі. У Беларусі школы заўсёды былі ў чужой мове. За цароў, да вайны, вучылі парасейску, і царскі ўрад сурова караў тых вучыцялёў-беларусаў, якія хацелі ўвясьці ў школы, дзе вучыліся беларускія дзеці, навуку пабеларуску.

За такія імкненьні расейскі ўрад садзіў у турмы і высылаў у Сібір. Якуб Колас, сялянскі народны наш пісьняр, быў таксама пасаджаны за гэта на некалькі гадоў у турму разам з другімі беларускімі настаўнікамі.

Ці цяпер зьмянілася гэтая справа ў нас? Нажаль, мусім сказаць, што прасьледуе нас доля, і цяпер няма ў Заходняй Беларусі для беларусаў школаў, у якіх вучылі-б пабеларуску. І хоць цароў няма даўно, аднак царскія парадкі ў школьным пытаньні асталіся.

Тымчасам, навука даўно аб‘ясьніла, што толькі тая школа добрая, толькі тады дзіця можа лёгка і ахвотна навучыцца, зразумець усё, што чуе, калі ў школе вучаць яго ў той мове, на якой яно гаворыць дома з маткай, бацькай, на якой вырасла і ўзгадавалася. Пачатковая школа, да якой трапляюць малыя дзеці, сямілеткі, паводле галоўнага закону пэдагогікі (навукі аб тым, як вучыць), павінна вясьціся ў матчынай мове (Muttersprache).

Пану Школьнаму Інспэктару . . . . . павету.

Пётры, сына Язэпавага Пракаповіча, што жыве (напісаць дзе жыве: вёску і воласьць).

З А Я В А.

Спаўняючы загад Міністэрства Асьветы, наказую, што буду пасылаць свае дзеці (напісаць імя і век) у беларускую ўрадовую школу ў (паказаць дзе), катoрая ў нас згодна з языковым законам з дня 31.VII. 1924 г. і распараджэньня Мін. Рэл. Спраў і Публ. Асьветы ад 7.I. 1925 г. павінна быць адчынена, бо мы падалі на яе дэклярацыі.

Дзень напісаньня. Подпіс.

Кожны бацька ці маці піша асобную заяву, а ўсе заявы разам вязе да школьнага інспэктара паўнамочнік ад дадзенае мясцовасьці (вёскі, засьценку, мястэчка, ці некалькіх вёсак), або яны перасылаюцца таксама дзеля меншых коштаў разам па пошце ўпісным (заказным) лістом.

2. Усе тыя, бацькі ці апякуны, што дэклярацыі на родную беларускую школу з розных прычынаў летась увосень і зіму да 31 сьнежня **не падавалі**, павінны напісаць (пабеларуску) супольную ад усяе вёскі ці засьценку і падаць заяву гэтакага зьместу:

Мы ніжэйпадпісаныя жыхары (назваць вёску, або мястэчка) дамагаемся для сваіх дзяцей беларускае ўрадовае школы (далей падпісацца ўсім бацьком і апякуном з азначэньнем імён дзяцей і іх веку).

Так-жа маюць рабіць тыя беларусы, што жывуць у вялікіх местах.

Калі не згаджаюцца падпісацца пад такою заяваю ўсе бацькі, дадзенае мясцовасьці (вёскі і інш.), дык няхай падпішуцца тыя, што хочуць падпісацца.

3. Усе тыя бацькі ці апякуны, каторыя дэклярацыі на родную беларускую школу з розных прычынаў летась увосень і зіму да 31 сьнежня **не падавалі**, павінны лічыць сваім грамадзкім абавязкам падаць іх у гэтым годзе, пачынаючы ад 1-га верасьня да 31 сьнежня.

Калі ў даным месьце ці вёсцы не набярэцца дэклярацыяў на поўны кamплет, гэта значыць на 40 дзяцей, то падавайце столькі, сколькі набярэцца, бо ўсе пададзеныя дэклярацыі будуць мець вялікае значэньне дзеля здабыцьця беларускае школы.

Калі ў тых мясцох, дзе падавалі дэклярацыі, школы беларускія да 1-га верасьня ня будуць адчынены, дык там таксама трэба падаваць дэклярацыі.

4. Валасныя рады і мястовыя магістраты, у каторых ёсьць сьвядомая беларуская большасьць, павінны вынясьці пастанову аб адчыненьні беларускіх школаў там, дзе насяленьне падало на беларускія школы дэклярацыі, а таксама і там, дзе дэклярацыяў не падавалі.

5. У тых валасных радах і магістратах, дзе няма сьвядомай беларускай большасьці, беларускія сябры іх няхай пастараюцца пераканаць інных аб патрэбе гэтакай пастановы, а дзе ня можна дапяць большасьці, дзеля такой пастановы, няхай сьвядомыя беларускія сябры радаў і магістратаў ад сябе зробяць у іх заявы аб патрэбе адчыніць беларускія школы.

6. Усе беларусы на ўсіх вечах, зборках і паседжаньнях дамагайцеся пастановаў аб патрэбе адчыненьня беларускай школы. Нічога, калі Вам скажуць, што зборка „гэтым не займаецца“, бо бараніць дзеці і дамагацца ім здаровага развою ў сваёй роднай школе ўсюды ёсьць месца і час.

---

## Ці будзе вайна?

Ўсясьветная вайна, хвалі якой некалькі разоў пераліваліся праз вашу зямельку, а пасьля яе, аружнае змаганьне Польшчы з Масквою, якое вялося ўвесь

---

Расейскія школы ў Беларусі перад вайною был добра пастаўлены, настаўнікі аднак ня шмат чаго маглі навучыць дзяцей беларускіх, бо навуку гэную давалі дзецям у чужой для іх расейскай мове, якое дзіця ня чула дома і не магло ўсяго зразумець. Ад школы такой, пасьля 3-х лет, аставалася адно—уменьне расьпісацца дый толькі.

Свайго заданьня расейская школа ў Беларусі не выпаўняла. Народу не разьвівала, не давала яму галоўных ведамасьцяў аб прыродзе, геаграфіі, гісторыі краю, дзеля таго толькі, што гэныя ведамасьці падаваліся дзецям у чужой, незразумелай для іх мове.

Дзіця сапраўды разьвіваецца, збагачвае веду сваю, разьвівае сьветапагляд толькі тады, калі чуе аб гэтым у роднай, матчынай мове. Мова, язык — прадукт народнае псыхікі, найлепш дапасаваны да ўкладу псыхолёгіі дзіцяці, якое не патрабуе ўдумвацца, што значыць кожнае слова, а думае вобразамі, цэлымі разуменьнямі.

Як мы ўжо гаварылі ў папярэдніх гутарках, мова ёсьць галоўнай асаблівасьцяй Народу — Мова жыве, разьвіваецца, ўзбагачваецца, кшталтуецца разам з жыцьцём Народу.

2-гі пункт 109 параграфу Польскае Конституцыі гарантуе права Беларусам разьвіваць беларускую мову, кажучы:

„Асобныя дзяржаўныя законы забясьпечаць меншасьцям у Польскім Гаспадарстве **поўнае і вольнае** разьвіцьцё іх **нацыянальных асаблівасьцяў**“...

Мова разьвіваецца граматнымі людзьмі, якія ў школе ўжо пазналі яе, навучыліся правідлова пісаць, пазнаёміліся з граматыкай мовы. З гэтага вынікае, што дзеля разьвіцьця беларускае мовы, трэба вучыцца яе ў школе, трэба мець такія школы, дзе выкладалі-б вучоныя настаўнікі аб законах беларускае мовы.

Такімі школамі могуць быць толькі школы беларускія.

Польская конституцыя дае беларусам ясна выражанае права мець беларускія школы, у якіх могуць здабываць веду беларускія дзеці.

Накладаючы ў пар. 118 абавязак пасыланьня

час на беларускай зямельцы, зьнішчыла дашчэнту гаспадарчае і культурнае жыцьцё нашае вёскі, і жахі яе гэтак глыбока ўеліся ў памяці нашага сялянства, што і дагэтуль крывавыя вобразы вайны, як страшная зьява, пужаюць яго не даюць яму спакою.

Бо толькі тым можна растлумачыць тое зьявішча, што з году ў год неяк у пачатку вясны па вёсках нашых няма ведама скуль родзіцца страшная вестка, якая шэптам пераходзіць ад хаты да хаты, што вось з пачаткам вясны будзе вайна. І вестка гэна, блытаецца па вёсках да часу сенакосу, калі работа ў полі так захапляе салян, што, для якіх-небудзь іншых думак, нязьвязаных са штодзённай працай, хлебароб наш зусім ня мае часу. Але пад восень, калі зноў трэба сеяць, заглохшая вестка аб вайне зноў ажывае і зноў у зьвязку з ёю ў душы не аднаго хлебароба, які кідае зерне ў поле, паўстае пытаньне: а хто яго зьбіраць будзе?

Падчас зімы пуджала вайны на нейкі час недзе прападае, каб зноў ажыць у пачатку вясны і гэтак штогод.

Але ня толькі псыхоз пережытай вайны выклікае гэтыя весткі аб вайне. Пушчаюць і распаўсюджваюць іх па нашых вёсках ворагі нашага сялянства, якія зацікаўлены ў тым, каб трымаць яго ў стане неспакою, каб пазбавіць яго ахвоты да працы.

Сёлета весткі аб вайне блутаюцца па вёсках нашых таксама, хаця якраз цяперака найменш маюць пад сабой рэальнага грунту. Праўда, бальшавіцкія правадыры ў Маскве ў сваіх прамовах кажуць аб вайне ў сувязі з перарывам дыплёматычных зносін з Англіяй. Але што датычыцца Польшчы, то нават у прыпадку барацьбы бальшавікоў з Ангельцамі няма ніякай падставы думаць, што Польская дзяржава будзе ўцягнена ў гэную вайну, бо вайны ў Польшчы ніхто ня хоча.

Гэта першае. А другое—гэта тое, што ўся гэта гутарка савецкіх правадыроў аб вайне і гэныя прамовы іх аб гатоўнасьці чырвонай арміі да вайны прыпамінаюць сабою брахню таго сабакі, які брахаў на воўка дзеля таго, што баяўся, каб воўк ня зьеў яго.

Бо запраўды сам савецкі ўрад ня верыць у сілу і адпорнасьць свае арміі. Ен добра ведае, што вайна — гэта згуба для саветаў, і што згуба гэная хаваецца на штыхох тэй самай чырвонай арміі, якая складаецца пераважна з дзяцей сялянства.

І вось савецкі ўрад сам баіцца вайны і дзеля таго і брэша аб вайне.

І вось гэта, што савецкі ўрад баіцца вайны і ня хоча яе цяпер, чуючы сябе слабым, зьяўляецца найлепшай гарантыяй таго, што вайны ў працягу бліжэйшых некалькіх год ня будзе напэўна, бо народы Эўропы змучаны вайною і жадаюць спакойнай працы.

*У.*

---

## Актуальныя ўвагі.

Калі мы прыгадаем сабе вялікую вайну, разам з тымі агітацыйнымі мэтодамі, якія мелі месца падчас аружнае барацьбы цэнтральных дзяржаваў з дзяржавамі Антанты, дык пераканаемся, што добра наладжаная пропаганда была адным з тых дзейнікаў, каторы прадрашыў перамогу коаліцыйных арміяў і давёў Нямеччыну да вэрсальскае Каноссы.

Ведаючы, што моральнае паражэньне ёсьць аднача сна паражэньнем мілітарным, саюзныя дзяржавы памыкаліся скампраматаваць у вачох цывілізованага сьвету нямецкую нацыю і ў гэтым кірунку яны напружылі ўсе свае сілы. Самі вядучы вайну ў паветры і пад вадою, дзяржавы Антанты аказаліся вельмі чулымі да бомбардаваньня нямецкімі лятунамі Рэймскае

---

дзяцей да пачатковае школы, у якой навука зьяўляецца бясплатнай, паводле 119 параграфу Конституцыі, Польская Дзяржава ня можа, згодна з 109 і 110 параграфам, забараніць дамагацца беларускае школы для беларусаў. Інакш, не даючы такой школы, стасуючы практыку б. царскага ўраду, які хацеў абмаскаліць беларусаў, Дзяржава будзе пярэчыць 109 параграфу Конституцыі. Таксама пасярэдна гэны абавязак Дзяржавы вынікае з пар. 110, які дае права закладаць беларускія школы, наглядаць і заведваць імі і свабодна ўжываць у іх сваю мову.

„Польскія грамадзяне, што належаць да меншасьцяў нацыянальных, рэлігійных, ці языковых, маюць роўнае з іншымі грамадзянамі права закладаньня, нагляду і заведваньня сваім уласным коштам дабрачынных, рэлігійных і грамадзкіх закладаў, школ і іншых выхаваўчых закладаў, а таксама свабоднага ўжываньня ў іх свае мовы і выканаваньня правілаў свае рэлігіі“—(110).

Гэты параграф гарантуе перш за ўсё права закладаць і вясьці прыватныя сярэднія школы, якія згодна з уставадаўчымі мотывамі і тэндэнцыяй навукі аб гаспадарстве, маюць вясьці самаўрады і прыватныя асобы.

Але, гарантуючы права мець беларускія сярэднія школы, Дзяржава ня можа прасьледаваць беларускага пачатковага школьніцтва—інакш ня будзе дана забясьпечаньне поўнага і вольнага разьвіцьця нацыянальных асаблівасьцяў беларускае меншасьці, аб чым кажа 109 пар. Конституцыі 17 сакавіка 1921 г.

У школьным пытаньні мы маем закон 31 ліпня 1924 г., г. зв. „языковыя уставы“. Закон гэты, прызнацца трэба з жалем, дагэтуль ня ўведзены ў жыцьцё і сапсаваны, абмяжованы распараджэньнямі Ўраду, які кіраваўся поглядам, каб не дапусьціць увядзеньня ў жыцьцё наказаў Конституцыі, а нават і закону 31 ліпня 1924 г. Было гэта за міністра Станіслава Грабскага, магільшчыка беларускіх школаў, заядлага эндэка і шовіністага.

*Саўліч.*

катэдры й, выкарыстоўваючы гэты факт, пачалі зручна абрабляць грамадзкую опінію Старога й Новага Сьвету. Популярызуючы „людаедзтва“ швабаў, саюзьнікі прыцягвалі агульны спогад на свой бок і на бок ахвяраў прускага вандалізму: „гэроічнае Сэрбіі і шляхотнае Бэльгіі“, як тады пісалася.

Цікаўна, што расейцы павялі працу ў іншым кірунку і дайшлі да фантастычных і карыкатурных формаў ура - патрыятызму, адумыслова стварыўшы *Кузьму Крючкова* (кшталтам Ільлі Мурамца).

Па прычыне антынямецкай агітацыі, якая вялася ў міжнародным маштабе, адбывалася павольная ізоляцыя Нямеччыны. Бясспрэчна не аднэй толькі пропагандай перамаглі Нямеччыну, эканамічны крызыс і інтэрвэнцыя Амэрыкі зрабілі сваё, аднак пропаганда адыграла ў гэтым не апошнюю ролю. І ня толькі падчас вайны, але і ў іншыя пэрыяды сучаснага мірнага грамадзкага і палітычнага жыцьця ўва ўсіх яго праявах пропаганда заняла пачэснае месца.

У працэсе нацыянальнага адраджэньня шмат якіх народаў, інтэнсыўная пропаганда стварыла варункі, спагадныя перамозе збуджаных прыгнечаных нацыяў. Але якім-жа ж чынам адбываецца гэтая пропаганда й дзе яе галоўныя прылады?

Наймацнейшым аружжам у гэтай галіне ёсьць бязумоўна прэса; апрача прэсы, дзеля пашырэньня тых ці іншых ідэяў ужываецца экран, радыё, тэатр і г. д.

Сучасны стан беларускай сьведамасьці ў найбольш далёкіх і найцямнейшых кутках Заходняе Беларусі выяўляе пэўны недахоп належнай пропаганды. Зважаючы на неабходнасьць шырокае асьведамляльнае акцыі ў пакінутых і забытых кутках Палесься, пажадана было - б, у адным з палескіх местаў, наладзіць выдаваньне газэты, з пачатку хоць-бы на‘т і неперыядычнае. Патрэбна прэса провінцыяльная, а яе мы ня маем. Усе часопісі Заходняй Беларусі выходзяць выключна ў Вільні. Калі да гэтага падыходзіць з таго пункту гледжаньня, што Вільня мае найвыдатнейшыя беларускія публіцыстычныя і літэратурныя сілы і найлепшыя тэхнічныя сродкі, дык гэта можна лічыць плюсам, ізноў-жа, бяручы пад увагу прысутнасьць далёкіх ад яе цёмных частак Краю з пэўнымі лёкальнымі асаблівасьцямі, мусім прызнаць, што гэткая цэнтралізацыя прэсы зьўляецца заганнай.

Бясспрэчна, сьмешным было-б выступаць проціў выдаваньня ў Вільні найбольшага ліку беларускіх часопісаў, але ніхто, здаецца, ня будзе пярэчыць, што на Палесьсі ёсьць патрэба ў сваёй асобнай сялянскай газэце, датарнованай да вымогаў мясцовага беларускага насяленьня. Гэткая газэта лягчэй можа дайсьці да кожнае сялянскае хаты і наагул мае больш магчымасьцяў дзеля шырокага распаўсюджваньня. Адначасна трэба зазначыць, што выдаваная на Палесьсі часопісь стала - б тым цэнтрам, навакол якога згуртаваліся-б усе творчыя мясцовыя беларускія сілы. Апошнія выбары да мястовых самаўрадаў у Палескім ваяводзтве (Лунінец) ня выявілі нацыянальнае сьпеласьці насяленьня і прамовілі аб патрэбе беларускай пропаганды на Палесьсі. І кожны, хто толькі азнаёмлены з грамадзкімі адносінамі на Палесьсі, пераканаецца, што закранутае тутака пытаньне зьяўляецца вельмі актуальным і яго вырашэньне будзе мець вялізарны ўплыў на ўвесь уклад беларускага жыцьця.

*П. Дисе.*

---

*
* *

О! Бацькаўшчына, мая Маці,
Палёў вялізных шырыня,
Просторы, нівы, сенажаці,
Як моцна вас кахаю я.

Я бачу вас ў праменьнях сонца,
Што ўсходзе й ясны сьвет ліе —
І сэрца цешыцца бяз конца,
І вольны дух кіпіць ўва мне.

Я бачу: Вось ідуць дружыны...
Чые? Ага! Ўсяславу вядзе...
Прад імі гнуцца беразіны,
Іх бор, вітаючы, гудзе.

І слава Полацку старая
На від цябе ураз ўстае,
Ідзе дружына баявая
І песьню вольную пяе...

Ты, краю, родзіш успаміны,
Што сэрцу моцы паддаюць,
Ты, краю, ты о, мой адзіны!
Яны мяне у даль завуць.

Завуць і клічуць: „Гэй! за намі,
Паглянь, што мелі мы калісь,
Цяпер стварэце гэта самі;
Ствары!—у прошлае ўглядзісь“.

— Мы здольны меці — бо мы мелі
Ўсё то, чаго няма цяцер,
Мы зробім ўсё, што не пасьпелі,
Мы выканаем свой замер!

О! Бацькаўшчына, мая Маці,
Мы зробім ўсё, Ты нам павер,
Табе мы здольны жыцьцё даці,
Мы выканаем свой замер.

*Вітэблянін.*

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

У шпіталі рэжуць Янкелю жывот, запаленьне кішок, бач, меў.

Разрэзалі, справілі, што трэба, і зашылі, але коле нешта Янкелю ізноў. Ну, вялікая бяда, раз-два і зноў распаролі, глядзяць аж у жываце ножніцы запамятаваны. Выцягнулі і зашылі. Не, ізноў баліць. Рэжуць яшчэ раз. І што-ж? На гэты раз ніткі забыліся. Ляжаў Янкель, ляжаў, аж сьмешна яму зрабілася, якія дактары недагадлівыя, і кажа: „Пане, дохтар, і на сто гэта засіваць, лепш на зацэпацкэ зрабіце, як патрэба, ны ўзяў ды адцыніў“.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Кароткія ўвагі аб тым, як трэба сеяць жыта.

Падходзіць пара сяўбы. Трэба добра памятаць, што ўся цяжкая праца гаспадара, патрачаная ім на абработку зямлі і яе ўгнаеньне, прападзе, калі ён не паклапоціцца аб добрым насеньні, пасеяньні ў пару і закрые насеньне ня так, як трэба, а ў дабавак пасее занадта густа, ці рэдка. Ня ўсякае зерне насеньня, напрыклад жыта, прарастае, калі яно нават будзе самае лепшае, то ў ём будзе толькі 80% усходу або прарастаньня.

Што-ж гаварыць аб тым насеньні, калі жыта зжата недасьпелае, доўга было пад дажджом, або вельмі засьмечана „гірсам“ і іншымі сьметнякамі, ці часамі прыпрэла ў гумне, пакуль яго пасеялі. А апошняе надта часта здараецца з несьвядомасьці. Бывае, што жыта гаспадар малоціць дзён два-тры і ўсё жыта трымае ў адной вялікай кучы на сыром таку дзён тры-пяць, а часамі і больш. Ось-жа жыта, як насеньне, нават напагляд як-бы і сухое, ад гэтакага перахаваньня ў вялікай кучы вельмі саграваецца, зародыш насеньня заміpae, словам, псуецца, і вялікі процант гэтага жыта ня ўсходзіць. Калі-ж яшчэ жыта мае на сабе хваробы расьлін—іржу, галаўню, або спарыньню, (ражкі) што яшчэ горш, дык гэткім насеньнем зусім ня трэба сеяць, а абавязкова трэба зьмяніць насеньне.

Сыраватым насеньнем гэтак сама ніколі ня трэба сеяць. Бывае, што спачатку недасьпеўшае або сыраватае насеньне і дае ўсходы, але расьліны з іх не дасьпяваюць, або даюць зусім слабы ўраджай, калі і не загінуць за зіму.

Трэба добра ведаць, што ўжо даўно з практыкі заўважана, што сыраватае зярнё жыта, ячменю або аўса ды амаль усіх хлябоў слаба і вельмі павольна прарастае. Вось дзеля чаго, калі насенны хлеб малоціцца і сырамалотам, то ўсё-ж такі насеньне трэба абавязкова падсушыць на сонцы, а то і ў хаце. Насеньне хлябоў не баіцца нават падсушкі да 40° С. (Цэльзія), толькі самую прасушку насеньня трэба рабіць асьцярожна, каб не запарыць зародкаў. Пасевы сухімі зёрнамі заўсягды бываюць лепшыя, роўныя і дружныя ўсходы і больш адпорныя на ўсялякія хваробы або шкоднікі расьлін. На насеньне жыта лепш браць з таго кавалка поля, які скарэй пасьпеў, — з баравых месцаў, і ніколі ня трэба браць на насеньне жыта з поля, якое ўгноена сьвежым гноем, таксама і з поля на канюшынішчы. Калі няма магчымасьці адмяніць насеньне, то і сваё насеньне трэба добра ачысьціць і адсартаваць на млінку.

Сеяць жыта трэба на грунтох лёгкіх і гнойных пазьней, а на грунтох цяжкіх, сырых і нягнойных — як можна раней. Лепш за ўсё жыта удасца на грунтох пухкіх, на пясчана-глiністых і сугліна-пясчаных, добра ўгноеных, як і на навінах, сьвежаразробленых адлогах, або на травяных палёх, (па канюшынішчы, люцэрне, эспарцэце і лубіне, сарадэлі, гэтак сама добра расьце і па гарахох, віках, і па грэчцы). А найгорш удаецца жыта на бульбовішчах, пасьля лёну, канапель і буракоў.

Што датычыцца апрацоўкі зямлі, то жыта, як вядома, любіць як можна глыбокую апрацоўку і пухкі грунт, але ніколі ня сыпкую зямлю, а грўдкаватую. Сеяць жыта трэба ў такі грунт, каб зямля добра асела, зьляжалася. Жыта вымагае ня менш трох разоў падгорваньня плугам, і апошняе падгорваньне павінна быць не пазьней, як за 2—3 тыдні да пасеву. Ніколі ня трэба моцна і доўга баранаваць пасьля пасеву жыта, а калі пасеяна жыта, то прайсьці бараною адзін многа два разы, бо жыта ня зносіць распылу зямлі, а тым больш глыбокага закрыцьця (толькі да 2 см.), словам, вымагае структуры поля грудкаватае.

Ня трэба ніколі пазьніцца з сяўбою жыта, а сеяць „хоць у попел, але ў пару“, гэта значыць не глядзець на сухую часамі пагоду. Вельмі добра пад жыта даваць 6—12 п. супэрфосфату або томасшляку і калійнае солі 30%—пудоў 6—9, а вясною па ўсходах надта добра хоць 2—4 пуды чылійскае салетры на дзесяціну.

Пры сяўбе жыта трэба памятаць, што кожны клімат і кожны гатунак глебы мае свае спэцыяльныя сарты жыта, якія родзяць лепей.

Культур-тэхнік аграном.

*Я. Х.*

## Як мачыць і марынаваць грыбы.

Мачыць грыбы амаль ня кожная гаспадыня ўмееь, калі каторая жывець блізка лесу. Што тычыцца марынаваньня грыбоў, дык рэдка гэткі спосаб з грыбамі па нашых вёсках ужываецца, бо кажуць — гэта панская ежа. Скуль гэткі фальшывы пагляд — няведама. Мусі за тое, што марынаваныя грыбы, калі іх прыгатовіць умела, дужа смачныя, а ведама-ж усё смачнае — панскае.

Як мачыць, так і марынаваць грыбы—рэч зусім некаштоўная і нават тры грошы ня стоіць, апрача воцту ды перцу з лаўровым лістом, каторыя на гэтую справу трэба мець.

Перш за ўсё разгледзім пытаньне, як трэба мачыць грыбы.

Вёсцы вядомы толькі чатыры гатункі грыбоў, каторыя прынята мачыць, як напрыклад: 1) рыжыкі, 2) воўнянкі, 3) палгрыбы (грузды) і 4) падалешнікі (мачонікі).

Ачышчаныя ад сьмяцьця грыбы перамываюцца ў сьцюдзёнай вадзе і кладуцца ў рэшата, каб сьцяклі

і крыху абсохлі; пасьля гэтага трэба грыбы класьці ў цэбар — кожны грыб дагары аж да краёў цэбра і кожныя пяць радкоў наложаных грыбоў перасыпаюцца кропам і лістамі чорнага смуродніку. Калі гэта ўжо ўсё зроблена, наліваем у цэбар з грыбамі салёнай вады столькі, каб націснуўшы камянём (як націскаем капусту) вада паверх грыбоў была ў паўчэцьверці аршына. На вядро вады трэба даць тры фунты солі, а калі-б грыбы ставіліся не на доўга, дык можна даваць солі і меньш.

Загатоўка грыбоў на доўгі час робіцца чым пазьней увосень, калі яшчэ рост грыбоў ня спыніўся. Найлепш мачыць грыбы ў вузкіх цабэрках, а перахоўваць іх можна ў звычайнай варыўні, як капусту ці гуркі.

Марынуюць грыбы рознымі спосабамі. Найлепшы спосаб будзе вось які, бо гэты спосаб марынаваньня грыбоў ёсьць найлепшым тым, што прыгодзен для ўсіх гатункаў грыбоў.

Як заўсёды, грыбы павінны быць ачышчаныя ад сьмяцьця, пасьля чаго кладуцца ў рэшата і абліваюцца сьцюдзёнай вадой. Калі грыбы сьцякуць, перакладваем у збанок ці ў якую іншую судзіну (кацёл), тут-жа солім іх, заліваем варам і ставім грыбы варыць. Найлепей варыць на пліце, але можна варыць і ў печы. Калі грыбы пачнуць варыцца, трэба колькі раз зьнімаць пену. Як ужо грыбы зварацца, трэба іх праз рэшата працадзіць, а юшку гэтую ўзноў паставіць варыцца на пліту ці ў печ, палажыўшы туды горкага і пахучага перцу зярнятамі, лаўровага лісту і калі мала солі—пасаліць. Цяпер уліваем воцтавага квасу па аднэй чарцы на бутэльку гэтай юшкі. Як добра гэтая юшка заварыцца, дык выліць у стаўбун, каб астыла. Напасьледак грыбы ўкладаем у слоікі, найлепей у шкляныя, заліваем гэтай юшкай і завязваем крэпка пузыром ці купляем для гэтае мэты пэргамэнтную паперу. Перахоўваюцца гэтак сама у варыўні.

Дык няхай кожны пастараецца загатовіць узімку грыбоў мачоных, а таксама і марынованых, бо прыдзе час, сам сабе, чалавеча, падзякуеш.

Як трэба загатаўляць грыбы ў сухім відзе, глядзі артыкул у № 21 «Бел. Дня» — „Як зьбіраць і сушыць грыбы“.

*Янка Тарыкоў.*

## Аб пчалярстве.

Прыглядаючыся да розных галінаў сельска-гаспадарчага жыцьця ў нас у Зах. Беларусі і ацэньваючы іх разьвіцьцё, трэба зазначыць, што галіна пчалярства, адна з найкарысьнейшых галін зьяўляецца зусім занядбанаю. У нашых сельска-гаспадарчых часопісях пытаньне пчалярства ледзь зусім не высьвятляецца, таксама няма і ніякае адпаведнае літэратуры ў гэтым кірунку (апрача кніжкі Я. Пачопкі „Пчолы і як вадзіць іх ў рамовых вульлёх“). Вось дзеля гэтага я, як стары пчаляр-практык, хачу заняцца высьвятленьнем гэтага пытаньня і хачу даць некалькі практычных увагаў з гэтае галіны, а таксама пастарацца зацікавіць ёю і падзяліцца сваімі практычнымі здабыткамі. Перад тым, аднак, як прыступіць да разбору асобных пытаньняў, хачу сказаць некалькі словаў аб значэньні пчалярства.

Пчолы самі па сабе даюць для селяніна, а тым болей для пчаляра па прафэсіі вялізарную карысьць, пры даволі высокай цане мёду і воску.

Пры добрай пастаноўцы, г. з. пры ўмелым даглядзе і арганізованасьці, пчалярства можа прычыніцца да эканамічнага разьвітку нашае краіны з яе ліпамі і палямі, поўнымі красак. Выгаднасьць пчалярства была даўно ацэнена разумнымі людзьмі і разам з агульным разьвіткам прамысловасьці пачалося ўвядзеньне рамовых вульлёў, цэнтрафугаў для выцягваньня мёду і штучных вузаў.

Цяпер пчалярства перастала быць заняткам наўгад і дасягнула належнае вышыні.

Аднак нашыя і так нялічныя пчаляры не зьвяртаюць, або і зьвяртаюць, але мала, ўвагі на пчолак і на поступ пчалярства, трымаючыся дапатопнага спосабу выводжаньня пчол у калодах і маючы толькі адну карысьць час ад часу папасавацца мёдам.

Мы маем сотні прыкладаў, калі людзі, наслухаўшыся аб пчолах, прабавалі іх разводзіць і аднак ледзь не заўсёдыканчалі няўдачай, а дзеля чаго? Дзеля таго, што проста ня ведаем галоўных падставаў пчалярства.

Праўдзівы пчаляр павінен мець сталасьць і настойчывасьць і вялікую ўвагу, ну і безварункова частку таленту, каб пазнаць і апанаваць усё тое, што неразлучна зьвязана з пчалярствам.

Для пчаляра неабходна мець разборныя рамовыя вульлі, дзеля таго, што пчолы ў іх могуць працаваць больш пасьпешна і заўсёды знаходзяцца на воку ў гаспадара. Другая неабходная рэч, гэта цэнтрафуга для выцягваньня мёду, якая павялічвае збор і ашчаджае працу пчол, якія могуць тады ўжо не рабіць новых вузаў. Мёд, адтрыманы пры помачы цэнтрафугі, ня будзе ўжо зьмешаны з пяргою і дзеля гэтага, як лепшага гатунку, будзе цаніцца вышэй.

Трэцяй неабходнаю рэччу зьяўляецца штучная вуза; гэтым мы павялічваем прадукцыйнасьць працы пчолак па збіраньню мёду, дзеля таго, што яны ўжо не марнуюць часу па выраб вузы. Далей, у штучнай вузе чарачкі робяцца правільна і ня трутнёвыя, чым памагаем пчолам у іх барацьбе з трутнямі.

Прымаючы на ўвагу ўсё гэта, бачым што кожнаму, хто хоча быць пчаляром, трэба дзе-чаго павучыцца, дзеля гэтага я і хачу закрануць гэтую галіну сельска-гаспадарчае прамысловасьці, асьвятляючы неабходныя рэчы ў часе працы на ёй.

*Пчаляр.*

# Гаспадарчыя парады.

## Гароднія работы ў цяперашні час.

У садзе: Забясьпечваць падпорамі галіны дрэваў, на якіх вялікі ўраджай.

Зьбіраць і прамываць фрукты, якія падаюць,— з лепшых рабіць яблычныя мармэляды, воцты і інш., а горшыя зьядаць.

Зьнімаць гнілыя фрукты з дрэваў, каб не заразілі здаровых.

Лепшыя фрукты зьнімаць з дрэваў (рукамі, не трасучы) і сартаваць, лепшы тавар пакаваць і вывозіць на рынак. За добра зьнятыя (не абітыя) фрукты, высартаваныя, як мае быць, і салідна запакованыя, дасягаецца пры пераводзе на грошы значна вышэйшая цана.

Выцінаць і далей дрэўныя ваўкі, ухіляць каранёвыя атожылкі (піяўкі) і ўсялякія сьметнякі. У гэтым месяцы садзіць садоўкі (трускаўкі) на адпаведна прыгатоўленай зямлі.

У пітомніку: Скончыць ачкаваньне груш і яблыняў. Закладаць вочкі, акулізоўваючы ад паўночна-ўсходняга боку пня.

Фруктавыя дрэўцы ачышчаць ад усякіх атожылкаў (бакавых).

У жніўні грунтаваць дзічкі. Сабраныя ў ліпні костачкі чарэшняў і вішняў засыпаць пяском у скрынках. Зямлю пад фруктовымі дрэўцамі ўвесь час палоць і спульхняць.

У варыўным гародзе: Зьбіраць гуркі і вывозіць на рынак або квасіць. Зьнімаць памідоры, якія дасьпяваюць, вырываць і сушыць дробныя цыбулькі, прызначаныя на дымку, а большыя ўжываць.

Зямлю па выкапанай скарасьпейнай бульбе абсеяць шпінаком.

Ачышчаць ад качаноў зямлю пасьля збору раньняе капусты простае і каляровае (каляфіораў). Зьбіраць насеньне салаты, пятрушкі і кропу; вырываць і сушыць насенную радыску.

Пад канец жніўня помніць аб зборы (часьцёвым) насеньня з морквы, буракоў, капусты і г. д.

У краскавым гародзе: Скончыць ачкаваньне рожаў на сьпячае вочка. Зьбіраць насеньне, якое дасьпявае, з кустоў і красак. Высадзіць засушаныя цыбулькі гіацынтаў, цюльпанаў, лілеяў і нарцызаў.

## Хвароба парасят.

Пытаньне. Маю некалькі парасят, якія на пятым тыдні жыцьця адтрымалі моцны кашаль і маюць вельмі прысьпешанае дыханьне. Двое здохла, а адно закалоў і аказалася, што часьць лёгкіх была папсована. Як гэтую хваробу лячыць?

Адказ. Калі пры апісаных клінічных праявах былі таксама сьцьверджаны і зьмены ў лёгкіх, дык няма няпэўнасьці, што маем тут справу з гэтак званаю быдлячай заразаю. Проці гэтае хваробы істнуюць прышчэпкі, дык і трэба зьвярнуцца да мясцовага вэтэрынарнага лекара, каб зрабіў абаронную прышчэпку здаровым штукам, а хворыя і падазронныя лепей загадзя закалоць. Хлявы трэба вельмі добра ачысьціць, праветрыць і пасьля выбяліць.

---

# Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

## Ідзе лета!

Кліч гэты радасна гучыць — мы гэтак радасна вітаем ажыўляльныя праменьні сонца, калі, пасьля доўгае зімы, яно даўжэй і мацней сьвеціць нам! Як вельмі хочам цяпла, як ахвотна прабываем на сьвежым паветры, уцякаючы на вёску з душных гарадзкіх кватэраў!

А усё-ж лета, апрача найлепшага ўплыву на разьвіцьцё прыроды і маладое будовы дзіцяці, насоўвае таксама і паважную небясьпеку! Дасьведчаньнейшыя мацяркі ўжо ведаюць аб тым, што летам найбольш дзяцей памірае. Навуковыя даныя, абапёртыя на дакладных вылічэньнях і сабраныя ў працягу цэлага раду гадоў, пацьвярджаюць гэта зусім акуратна, адначасна паказваючы, што найбольшая небясьпека ў пэрыяд летніх сьпёкаў пагражае дзецям, пазбаўленым матчыных грудзей і кармленым штучна. Адсюль было найбліжэйшае прыпушчэньне, што штучны корм,—а г. зн. каровяе малако — летам псуецца лягчэй і выклікае жалудачна-кішачныя расстройствы ці гэтак званыя ганячкі, якія якраз і зьяўляюцца найчасьцейшаю прычынаю сьмерці дзяцей у пэрыяд летніх сьпёкаў. Гэтак ёсьць сапраўды—прыгатаўляньне і перахоўваньне стравы для штучна кормленых дзяцей павінна быць над'звычайна старанлівым, бо кожнае ўпушчэньне можа нераз рашаць проста аб жыцьці дзіцяці.

Адсюль таксама паходзіць важнае і бязумоўна абавязковае паказаньне для мацярок, каб у часе лета не адлучалі ад грудзей дзяцей і ў штучным кармленьні захоўвалі меру і найбольшую асьцярожнасьць. Аднак-жа далейшыя досьледы паказалі, што ня толькі каровяе малако і яго зьмены ў летні пэрыяд зьяўляюцца прычынаю расстройстваў і сьмяротнасьці дзяцей. Каб выклікаць расстройствы, патрэбна яшчэ і аслабленьне натуральнае адпорнасьці дзіцяці—а гэтае аслабленьне зьяўляецца пасьледзтвам гэтак званага пераграваньня арганізму ў часе сьпёкаў. З гэтых навуковых досьледаў для нас выплываюць важныя практычныя паказальнікі—не памагайма пераграваньню арганізму, а старайма́ся гэта папярэдзіць. Дзіця, як і кожны, найлепш чуецца на сьвежым вольным паветры — аднак-жа нельга для яго шукаць месцаў, дзе сонца опяруе найсільней, асабліва ў гарачыя поўдні, — і перш за ўсё ня трэба атуляць дзіцяці моцна, ня ўкрываць залішне цёпла. Ухілем усялякія пярынкі, якія тамуюць доступ паветра да цела — прыкрывайма дзяцей толькі лёгенькаю коўдрачкай, не акручвайма іх спавівальнікам пазваляючы, каб маглі вольна выцягнуцца і варушыць рукамі ды нагамі,—і ўжо зробім шмат дзеля ўхіленьня паважнае небясьпекі ў часе сьпёкаў!

У памешканьні таксама трэба старацца, каб быў найлепшы доступ паветра і ўхіляцца ад душнаты і гарачыні—там, дзе сонечная опэрацыя вельмі вялікая, трэба засланяць вокны, дзе паветра сухое—разьвешваць мокрыя хусты або посьцілкі, дбаць аб праветрываньні і заўсёдным асьвежваньні паветра. Летнія ванны таксама маюць вялікае значэньне для ўтрымліваньня як чыстаты скуры, так і яе здольнасьці да аддаваньня цяплыні. Павялічаная смага дзіцяці вымагае частейшага даваньня жыдкасьці—пераваранай вады або лёгкае, слаба засалоджанае, гарбаты. Але найболей трэба помніць, што ў пэрыяд сьпёкаў кожнае жалудачнае расстройства ў дзіцяці зьяўляецца паважнаю небясьпекаю, а дзеля гэтага і трэба яго паважна трактаваць: там, дзе прагалоджаньне дзіцяці ў працягу некалькіх гадзін ня ўплывае на папраўленьне стану яго здароўя, трэба зараз-жа дастаць параду ў лекара! Бо марудзячы лёгка можам дачакацца, што ўсякая падмога будзе ўжо спозьненай!

(„Kultura“)

---

# Корэспондэнцыі.

## А нас не разбудзілі.

(м. Далятычы, Наваградзкага павету).

У Далятычах арганізавіла моладзь аматарскі тэатр, які паставіў тры спэктаклі. Былі адыграны такія п'есы: „Мікітаў Лапаць“, „Пільнуй свае хаты“, „Суд“, „Жыд у бочцы“, „Модны шляхцюк“ і „Заручыны Паўлінкі“. Перад гэтым Гурток Моладзі пабудаваў даволі добрую сцэну, купілі трохі кніжак, усё гэта паказвала на тое, што Гурток жывець. Але раптам жыцьцё замёрла, якісь чароўны сон агарнуў нашых аматараў. А шкада, бо якраз летнюю пару можна было-б выкарыстаць, бо хутка надыйдзе і зіма, якая змусіць перарваць працу, дзеля браку цёплага будынку. Брыдка вам, маладыя аматары, што вы так хутка пастарэлі. Няўжо-ж штодзенныя змаганьні за кусок хлеба, штодзённае гора і клопаты зламалі вашу веру і волю! Зварухнецеся і ўстаньце, бо пад ляжачы камень і вада не бяжыць.

Таксама цяжка праца ідзе і Пажарнай Далятыцкай Варты. Урад Варты, які складаецца з тутэйшых паноў, вучыцялёў, асаднікаў, які зьбіраецца ад Вялікадня на сабраньне і ніяк сабрацца ня можа. Калі цяжка працаваць, або няма выгады, трэба ўступіць другім месца. А то і „сам ня гам і другім ня дам“. Мусі трымаюцца дзеля гонару.

Дык за працу, а працы ёсьць шмат.

Бадзяка.

## Сухаволя, Сакольскага павету.

Мястэчка Сухаволя, гэта найдалей на захад высуненае беларускае мястэчка. Да вайны польскія ўплывы ў Сакольшчыне былі малыя. Ішлі яны на вёску праз касьцёл, дзякуючы таму, што ксяндзы польскія ідэнтыфікавалі каталіцтва з польскасьцяй і вырабілася паняцьце... польскае веры. Польска-каталіцкае духавенства з мэтаю дэнацыяналізацыі якраз і працуе ў тым кірунку, каб не пазволіць людзям адрозьніваць каталіцкае веры ад польскае нацыянальнасьці. Бо кожны ведае, што палякоў у Сакольшчыне няма, па-за элемэнтам наплывовым і вясковай інтэлігенцыяй, а часта толькі псэўда-інтэлігенцыяй, якая выраклася свайго роднага, дзеля розных карысьцяў, зьвязаных з польскасьцяй. Частка беларускае інтэлігенцыі, якая мусіць працаваць у Сакольшчыне або якая змушана сядзець на вёсцы, не праяўляе ніякай дзейнасьці дзякуючы таму, што зьвязана гэта найчасьцей з рознымі благімі пасьледзтвамі. Але што народ тут беларускі, аб гэтым ня можа быць ніякіх спрэчак. Ксяндзы беларусы, якія за лепшых часаў маглі спраўляць свае рэлігійныя абавязкі і ў Сухаволі, цешыліся вялікім паважаньнем і найлепш зжываліся з вёскаю. А было гэтак, перш за ўсё, таму, што былі яны беларусамі, і пабеларуску думалі. Сялянства ў Сакольшчыне наагул, як і ўсюды, цяпер перажывае гаспадарскі крызыс, які няведама калі скончыцца. Цяжка жывецца тутэйшаму гаспадару, ён ледзь зьвязвае канец з канцом.

Ніякага грамадзкага жыцьця Сухаволя не праяўляе. Праўда, ў гэтым годзе мястэчка перашло на хутарную гаспадарку, так што гэта можна залічыць да вялікага поступу. Але зьяўляючыся сьведкай барацьбы, якая вялася проціў хутароў, аж верыць ня хочацца, як шмат яшчэ ёсьць цёмных, а часта і подлых людзей. Гаспадарскіх арганізацыяў, так як няма, бо абсолютна нічога ў гэтай галіне ня робіцца. Ніхто аб гэтым ня дбае, старыя гаспадары нічым ня цікавяцца, а моладзь дык зусім нічога добрага ня робіць. Час траціла на п'янстве, пустых гульнях, а часта і бойках. Ня было каму парупіцца, аб нашай моладзі. Некалькі год таму быў у Сухаволі ксёндз, беларус, ён дык умеў з'арганізаваць моладзь і тады моладзь пачала цікавіцца культурнымі справамі. Але ксёндз, беларус ці-ж мог доўга пасядзець на месцы? Перанясьлі, а разам з тым і арганізацыя ўпала.

Толькі ў гэтым годзе моладзь пачала кратацца. Дзякуючы ізноў ксяндзу, але ўжо паляку, паўстала „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej“. Арганізацыя гэта нібы апалітычная, а запраўды дык чыста эндэцка-клерыкальная, якой у Вільні патронуе сам п. Обст. Моладзь ня дужа ахвотна там пашла. А некаторыя пасьля выступілі. Бо куды сялянскім сыном, сыном крывавага мазаля, належаць да арганізацыяў эндэцка-клерыкальных! Пэўна маласьведамая моладзь там асталася. Цікава, што адзін мне нават знаёмы хлапец, якога ўсе лічылі за разумнага і паважнага, так паддаўся ксяндзоўскім уплывам, што ніяк ня можна яго пераканаць аб шкоднасьці такіх арганізацыяў. Хлапец гэты, праўда, зьяўляецца „вялікім прэзэсам“ арганізацыі, можа лічыць за гонар тое, што можа штодня відзець і вітацца з вікарым, арганістым і іншымі маламестачковымі інтэлігентамі. Ня гонар гэта — ніякі, не. Наадварот, выглядае гэта на лякайства, а ніхто не спадзяваўся лякайства па ём. Другая, частка моладзі арганізавала „Strzelca“, але нічога там, апрача ваеншчыны, ня робіцца. Культурнае працы няма ніякае, а таму і карысьці з ваеншчыны мала. Моладзь наагул дзічэе. Школьны будынак прыгожы, але навука вядзецца ня надта добра. І нічога дзіўнага. Настаўнік з Галіцыі, мо' гэта і нічога кепскага. Але ёсьць сярод іх адзін налаговы алькаголік, які вінен у кожнай карчме, які ня толькі ў корчмах п'ець водку, але прыносіць да школы, дзе аднаго разу пачатую бутэльку знайшлі. Вось такі

чалавек вучыць нашых дзяцей. Дзе тут інспэктар, які хіба ведае аб штучках гэтага настаўніка, бо гэта не тайніца ў Сухаволі, што гэны настаўнік кожнага першага, замест грошай, адтрымлівае з пошты толькі зьверненыя вэксалі. Такога настаўніка, ужо даўно не павінна быць. Хай едзе там, скуль родам.

Словам мала ёсьць рэчаў у Сухаволі, якія-б цешылі. Людзям кепска жывецца — не вядзецца ніякай культурнай працы, сьведамасьць беларуская ўзрастае памалу. Адно толькі, што чалавека цешыць, што не пазваляе губляць добрай думкі на будучыну, гэта тое, што моладзь з Сухавольскай валасьці, як наагул моладзь з Сакольшчыны, якая вучыцца вышэй, у гімназіях, часта ў унівэрсытэтах, ня кідае, свайго роднага, а нацыянальна сьвядомая. А сьвядомая і ідэйная беларуская інтэлігэнцыя, гэта залог лепшай будучыны.

Сухавольскі.

### Вынікі выбараў у валасныя рады ў Баранавіцкім павеце.

1. Дароўская валасьць—8 беларусаў і 2 палякі.
2. Добрамысьль—8 беларусаў, 1 асаднік, 1 абшарнік-паляк.
3. Гарадзішча—8 беларусаў, 1 паляк, 1 жыд.
4. Крывошын—9 беларусаў, 1 жыд.
5. Ястрэмбская валасьць—9 беларусаў, 1 паляк.
6. Мяховічы—10 беларусаў, 1 паляк, 1 расеец з П.П.С.
7. Новая Мыш—усе 10 беларусаў.
8. Астравецкая — 8 беларусаў, 2 палякі мясцовыя і 1 асаднік.

У Маўчадзкай валасьці, дзеля таго, што былі падчас выбараў ашуканствы, выбары не зацьверджаны і адбудуцца новыя.

У Вальнянскай валасьці выбараў ня было, з тае прычыны, што выбары там адбыліся летась. Старых войтаў асталося толькі тры. Новыя войты ўсе беларусы. У Новай-Мышы войта выбіралі два разы, абодва разы беларусаў, але дзякуючы інтрыгам старога войта з жыдамі і перакупству, каб ізноў астацца войтам, баранавіцкі староста назначыў войта.

Выбары адбываліся пад лёзунгамі нацыянальна-гаспадарчымі і, як бачым, далі добрыя вынікі.

Самаўрадавец.

### З Беласточчыны.

У шмат якіх валасьцях ужо адбыліся выбары ў валасныя самаўрады. У выбарах бярэ удзел ня больш як 40%, што маюць права галасаваньня. Гэта сьведчыць аб малым зацікаўленьні выбарамі.

Беластоцкае ваяводзтва адтрымала на разбудову 2 мільёны злотых, якія разьдзяліла гэтак:

| | | |
|---|---|---|
| Старства | Беластоцкае | 120.000 зл. |
| „ | Бельскае | 250.000 „ |
| „ | Горадзенскае | 280.000 „ |
| „ | Граеўскае | 30.000 „ |
| „ | Кальнэнскае | 80.000 „ |
| „ | Ломжынскае | 250.000 „ |
| „ | Астралэнцкае | 250.000 „ |
| „ | Остраўскае | 40.000 „ |
| „ | Сувальскае | 140.000 „ |
| „ | Аўгустоўскае | 250.000 „ |
| „ | Ваўкавыскае | 220.000 „ |
| „ | Высока-Мазавецкае | 30.000 „ |

У заходніх паветах Беласточчыны пашыраюцца земляробскія арганізацыі. І ня толькі земляробскія, але наагул і такія, якія зьвязаны з земляробскім промыслам, як малачарні, пчалярні і г. д. У арганізацыі гэныя ідзе быццам што раз больш сялянства, дзякуючы іх апалітычнасьці. Мо' так і ёсьць, але тое, што ў Польшчы, называецца апалітычным, у нас якраз ёсьць палітыка. Да нашага селяніна, хочучы, каб ён захапіўся і закладаў земляробскія арганізацыі, трэба ўмець загаварыць пабеларуску. А ўжо зусім кепска калі інструктар ня прызнае беларускасьці. Такі інструктар нічога добрага ня зробіць.

### Бяз бойкі не абходзяцца.

Радашкавічы, Вялейск. пав.

У нядзелю 3.VII. некаторыя з нашых хлапцоў сабраліся з дзяўчатамі ў памешканьні Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і згулялі вечарынку. Усё абышлося якнайлепей. Але ў той самы час другія, таксама ў большасьці нашыя беларусы, але запісаныя ў сябры „Macierzy Szkolnej“ ладзілі скокі ў „доме людовым“ (бібліятэка-чытальня „Macierzy Szkolnej“). І вось тамака дык не абышлося бяз скандалу. Паўпіваліся і пачалі на вуліцы біцца. Хацелі пабіць хлапца Н., але той уцёк, дык уварваліся да яго бацькі ў хату і калі той злаяў іх бандытамі — пачалі біць старога. Жонка яго тымчасам крычала так моцна, што аж на ўсё места чуваць было. Урэшце прыляцела паліцыя і абараніла ахвяру п'яных. А аднаго хлапца дык зусім скрывавілі, усе бачылі як ён бег па вуліцы... Ці-ж ня брыдка вам гэтак рабіць? Няўжо „Дом Людовы“ прызначаны для вас на асабістыя разрахункі?

Ці-ж ня лепей было-б вам, сабраўшыся, пачытаць якую хоць дзіцячую байку, калі ўжо так ня цікавіцеся паважнейшымі справамі? Гэта шмат карысьней, бо ад чытаньня чалавек разьвівае здольнасьць да думак і гэтым шляхам можа дайсьці да сьвядомасьці аб сабе і аб сваім палажэньні. Эх, дзеткі, шмат вас трэба вучыць яшчэ!

*Mortalis.*

---

## АБ УСІМ ПАТРОХУ.

### Ці нас ёсьць зашмат?

Вучоныя здаўна цікавіліся пытаньнем, колькі людзей можа зьмясьціць зямля. Бо заўсёдны ўзрост жыхарства мог разьвязаць пытаньне аб тым, што ў будучыні зьнікнуць войны.

Вось-жа ні адна вайна ня была выклікана беспасярэдня перанасяленьнем данае тэрыторыі. Два бэрлінскія вучоныя географы, Альбрэхт Пэнк і Алёзы Фішэр, пасьвяцілі гэтаму пытаньню свае апошнія досьледы. Яны кажуць: „жывеце і расплоджвайцеся“.

Бо зямля мае сяньня 1.800 мільёнаў, г. знача толькі 20 процантаў таго ліку, які яна можа зьмясьціць. У Эўропе сяньня ёсьць 460,000,000 людзей, а можа ў ёй зьмясьціцца ня больш, як 560,000,000—вось-жа хутка можа быць перанаселена. Нават Азія мае ўжо сяньня 70 проц. мажлівага ліку. Вось жа адзіным абшарам будучае эміграцыі стане Афрыка і Аўстралія. У Афрыцы ёсьць сяньня 140,000,000, а можа жыць з 2,000 мільёнаў. Яшчэ больш месца ў Аўстраліі, дзе сёньня ёсьць усяго 8,000,000 людзей, а можа зьмясьціцца столькі, як у Эўропе.

Таксама і Паўднёвая Амэрыка мае месца на 1,200 мільёнаў. За 100 гадоў выэмігруе з Эўропы 31 мільён людзей. Англія ўжо даўно апякуецца землямі, куды яны маюць ехаць. Калі да гэтага часу ангельская мова ўтрымаецца пры сваёй сіле разьвіцьця, тады можна лёгка ўявіць сабе момант, калі яна будзе валадаць трыма чацьвёртымі зямное кулі.

# Палітычныя навіны.

### Здээртаваў польскі гэнэрал.

Гэнэрал брыгады Загурскі, быўшы шэф авіацыі ў Польшчы, які падчас маёвага пераваротy кідаў бомбы на Варшаву, а пасьля перамогі Пілсудскага апынуўся за кратамі і прасядзеў 15 месяцаў у турме ў Вільні, апошнімі днямі выпушчаны з вастрогу, ўдёк няведама куды.

Урад абвясьціў яго дезэртырам, паставіў на ногі ўсю жандармэрыю і паліцыю, аднак-жа выкрыць дзі ён падзеўся, да гэтага часу не ўдалося.

### Бунт у Партугаліі.

У Партугаліі зноў рэвалюцыя, гэтым разам збунтавалася правіца, аднак большасьць войска засталася вернаю ўраду і ўзяла верх пад бунтаўшчыкамі.

РУМЫНІЯ.

У Румыніі опозыцыя проці цяперашняе рэгэнцыйнае рады, што правіць замест нялетняга караля, набірае штораз то большае сілы; на чале опозыцыі стаіць гэнэрал Авэрэску.

### Велізарны протэст.

Проці прысуду Сакко і Ванцэці, вядомых правадыроў амэрыканскіх анархістых, якія засуджаныя на кару сьмерці за звычайнае забойства і рабунак 6 гадоў таму назад амэрыканскім судом, а казьнь якіх да гэтага часу ня была выканана — протэстуе цэлы сьвет.

### Лёс Францішка Аляхновіча.

Выехаўшы ў свой час у Менск, беларускі пісьменьнік Ф. Аляхновіч апошнімі часамі сядзеў у падвале Г. П. У., а цяпер высланы ў Салавецкі концэнтрацыйны лягер.

### Протэст эс-эраў.

На імя амэрыканскага консуля ў Варшаве віленскія беларускія эс-эры паслалі дэпэшу-протэст проціў прыгавару сьмерці на Сакко і Ванцэці.

# Паштовая скрынка.

А. Бальцэвічу. Да друку не падойдзе. Пішэце аб жыцьці вёскі. Параду дамо.

Я. Кулаку. Газэту пасылаем. Корэспондэнцыі прысылайце; адносна варункаў супрацоўніцтва, пакуль што, нічога сказаць ня можам.

Г. Яйсон. Газэта высылаецца рэгулярна.

Прыхільніку. Прысланая корэспондэнцыя ў друк ня пойдзе. Корэспондэнцыі, аб якіх у сваім пісьме ўспамінаеце, маглі-б быць больш цікаўнымі.

Борка Іг. Адказ дамо пісьмом.

Батура В. Параду перашлём пісьмом. Юрыдычныя парады даём толькі падпісчыкам.

Сенько М. Параду дамо.

---

Рэдакцыя месячнае часопісі „Беларуская Культура" прыступаець да складаньня другога нумару часопісі. Рукапісы просіць накіроўваць па адрэсе: **Ціхая вуліца, № 4 — 20.**

---

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.